


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 37 (1072) БЕЛАСТОК 12 ВЕРАСНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.



# ЯК МІЛЕЙЧУКІ БУНТАВАЛІСЯ

*У памяці Рыгора Хурсовіча, захавалася ўсё, што продкі расказвалі аб мінулым Мілейчыц, асабліва тое, як мілейчукі змагаліся за свабоду.*

Мілейчукі ўсё яшчэ лічаць сябе гараджанамі, хаця даўным даўно іх пасёлак прыраўнаны да вёскі.

Першы раз збунтаваліся яны супраць гэтага яшчэ ў пачатках мінулага стагоддзя. У скарзе ад 13 лістапада 1824 года яны заяўлялі:

*„Не были с самых древних времён в состоянии крестьян, не делали никаких господским дворам повинностей, а только единственно уплачвали в казну оброчную подать наравне с прочими казёнными городами и местечками бывшего Литовского края, пользовались ненарушимою свободою, примуществом и выгодами, пожалованными грамотами от бывших королей польских“.*

Найстарэйшы жыхар Мілейчыц, **Рыгор Хурсовіч**, якому 94 гады, усё гэта тлумачыць шмат прасцей.

— Мілейчукі мелі дакумент, — кажа ён. — Такі вялікі, на белай цялячай скуры, літарамі, як палец, напісаны, з зялёнымі каралеўскімі пячаткамі на моцных шнурках. Я сам яго бачыў. Гэты дакумент даў мілейчукам яшчэ польскі кароль і вялікі князь літоўскі Зыгмунт Аўгуст. З таго часу гэты дакумент. Ён звальняў мілейчукоў ад паншчыны. Плацілі яны толькі чынш.

Дзядзька Хурсовіч гісторыі свайго краю не вывучаў з архіўных крыніц. У яго памяці перахаваліся народныя традыцыі і ўспаміны, асталося ўсё тое, што мілейчукамі перадавалася з пакалення ў пакаленне.

А калі заглянуць у архіўныя дакументы, то з іх вынікае, што ў 1789 годзе жыло ў Мілейчыцах 144 гаспадары, якія абавязаныя былі плаціць 3420 злотых і 25 грошай чыншу, адбывалі па 20 шарваркаў ад гаспадаркі і давалі па 8 гвалтаў (пазачарговая праца). У адрозненні ад прыгонных сялян, нельга іх было прымушаць да працы пры аранні, баранаванні і малацьбе. Затое мілейчукі абавязаны былі несці начную варту.

— Калі настала Кацярына Вялікая, — расказвае дзядзька Рыгор, — тады яна патрабавала ад мілейчукоў гэтага дакумента, каб яны даказалі, што сапраўды з'яўляюцца гараджанамі, а не прыгоннымі сялянамі. Дурныя мілейчукі, — кажа дзядзька Рыгор, — перапалохаліся, падумалі, што царыца адбярэ ім гэты дакумент. Ды яны закапалі яго пад камень на ўрочышчы Бярэсцінка. Як так зрабілі, то Кацярына загадала пагнаць іх на паншчыну.

І ў сапраўднасці, было яно ўсё амаль так, як апавядае дзядзька Рыгор. Пасля апошняга падзелу Рэчыпаспалітай у 1794 годзе Мілейчыцы знайшліся ў межах Рускай Імперыі, а Кацярына II шчодрай рукой раздавала сваім фаварытам даўнейшыя каралеўскія маёмасці і канфіскавала маёнткі. Мілейчыцы падарыла яна графу Румянцаву, які нават і не пацікавіўся гэтым манаршым падарункам, закінутым сярод дрымучых лясоў, далёка ад сталічнага цэнтра і тут жа прадаў Мілейчыцы разам з іх жыхарамі нейкаму Ягміну, даволі багатаму літоўскаму шляхціцу. Новы набытак відавочна яму не спадабаўся і Ягмін адпрадаў Мілейчыцы немцу Цукербекеру, ад якога гэты пасёлак перайшоў за даўгі на ўласнасць іншага немца па прозвішчу Клейн. Гэты Клейн відавочна няблага прыціснуў сваіх новых падданых. На працягу чатырох дзесяткаў гадоў, а практычна аж да адмены паншчыны, амаль кожны год узнікалі ў Мілейчыцах бунты.

Ва ўспамінах Рыгора Хурсовіча справа выглядае так:

— Сем лет мілейчукі цярпелі паншчыну, — расказвае ён. — А пан, халера, быў вельмі злосны і душыў наш народ. Тады мілейчукі адкапалі свой каралеўскі дакумент і з ім, з гэтым дакументам, адправілі сваіх паслоў аж у Пецярбург, у царскую сталіцу, каб цару-бацюшку чалом да зямлі пакланіліся і аб апеку яго прасілі. Тады ўжо ў Расеі новы цар настаў. Паслы гэтыя адправіліся ў далёкую дарогу пехатою. Сем гадоў чакалі іх мілейчукі і дачакацца не маглі. І вось аднойчы, якраз у поўдзень, раззваніўся касцельны звон, якога ў нас святым Станіславам называлі, а званіў так галасна, так моцна, што аж раскалоўся на дзве часткі. Усе ў Мілейчыцах зразумелі, што гэты звон апавяшчае ім пажаданую свабоду і кінулі паншчыну, з поля паўцякалі, вітаць сваіх паслоў паімчаліся. Іх аднак не знайшлі, бо яны яшчэ не вярнуліся з гэтага падарожжа, толькі вестка пра свабоду, дараваную царом новым, апярэдзіла іх.

Легенду пацвярджаюць гістарычныя крыніцы. Толькі рэчаіснасць была не так красамоўная, як захавалася яна ў народнай памяці. На пачатку 1816 года пецярбургскі царскі сенат сапраўды разглядаў ужо *„дело о неповиновении милейчицких крестьян“*. Такія справы разглядаліся тады цэлымі гадамі. Непакорныя мілейчукі трацілі цярплівасць. У 1824 годзе губернская паліцыя ў Гродне аднатавала, што жыхары Мілейчыц *„пребывали всегда в неповиновении своему двору под видом отыскания свободы“*. І далей знаходзім тут цэлы пералік злачынстваў мілейчукоў.

Працяг на стар. 4

Новыя вершы

### МАЯ ГРАМАТЫКА

*У лесе родную вучыў я мову.*
*Назоўнікамі дрэвы ў ім звіняць.*
*Тут птушкі утвараюць дзеясловы —*
**Пяюць, шчабечуць, свішчуць**
**і крычаць.**

*Прыметнікамі бор здалёк*
*прыкметны —*
**Зеленачубы,**
**статны,**
**залаты.**
*Сустрэне бор займеннікам прыветным:*
*Як з лепшым сябрам,*
*з кожным* **ён на ты.**

*Зязюля раніцой лічэбнік вучыць —*
*Плыве наўсцяж стосотае „ку-ку“.*
*Цвіце багун. Цвіце чабор гаючы.*
*Вісяць, што коскі, шышкі на суку.*

*Хаваюцца часціны і прыслоўі,*
*Нібы грыбы, сярод імхоў і траў.*
*Я ў верасным, сунічным палясоўі*
*Граматыкі падручнік прагартаў.*

*Звіні ж вякамі, мова, па-над краем —*
*На пераправе, ў лузе, пры сасне.*
*Жыццё не адмаўляе, а сцвярджае*
*Адмоўная часціна мовы —* **не.**

**Не** *знішчым мы,* **не** *страцім,*
**не** *загубім*
*Сваіх азёр, лугоў, сваіх лясоў.*
*І родны край і мову* **не разлюбім** —
*У кожным сэрцы гэты дзеяслоў!*

**Віктар Гардзей**

ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"



# БЛЯСКІ І ЦЕНІ ШКОЛЬНІЦТВА Ў КУЗНІЦЫ

Ужо колькі дзён як празвінеў першы званок у новым 1976/77 навучальным годзе. У школах пайшлі нармальныя працавітыя дні.

— Бягучы школьны год для нашых настаўнікаў абазначае пераход на новую выхаваўчую сістэму паводле прынцыпаў вядомага педагога Г. Мушынскага, — паведамляе мне гмінны дырэктар у Кузніцы **Станіслаў Клім**. — Як вядома, гэтая сістэма абазначае поўную актывізацыю вучняў і іх адказнасць у часе прабывання ў школе. У нас абавязвае лозунг: „Кожны вучань — гаспадаром школы“. Прыкладзем усе намаганні, каб ён не абмежаваўся да слоў, а стаў кіруючай ідэяй нашай выхаваўчай працы. Тым больш, што здзяйсняць яго будзем на базе значных дасягненняў мінулага навучальнага года, у якім сярэднія ацэнкі былі: у Кузніцы — 4,1 бала, а па іншых школах гміны — 3,9 бала. Гэта заахвочваючыя паказчыкі. Шмат у гэтым ёсць укладу самаадукацыйных настаўніцкіх прадметных калектываў. На асаблівую ўвагу па станоўчых выніках свае працы заслугоўваюць калектывы: польскай мовы — кіраўнік Г. Іваноўская, навучання ў класах I-IV — кіраўнік Б. Ярош, матэматыкі — кіраўнік В. Ярош і іншыя.



*Галоўны корпус школы ў Паўловічах.*

— А як справы матэрыяльнай базы школаў?

— У Клімаўцы маем новы школьны будынак. Праўда, перароблены з жыллёвага, але нядрэнны. Яго пакупка ад прыватнага ўласніка і адаптацыя абышлася ў адзін мільён дзвесце тысяч злотых. Цана не малая, але мы не шкадуем — нарэшце будзем мець свой школьны будынак, а не нанятую хатку. Усюды ў школах былі праведзены рамонты; ва ўсёй гміне яны нам абышліся ў 50 тысяч злотых. Сума невялікая, бо бацькі і школьная моладзь шмат зрабіла ў грамадскім чыне, напрыклад, у Кузніцы і Новадзелі пама-

**(Працяг на стар. 4)**

## Гартаючы кніжкі

# Р.Р. Шырма і Беласточчына

Кожны, хто знаёмы хоць бы з большасцю дагэтуль апублікаваных Р. Р. Шырмам яго запісаў беларускіх народных песень, бясспрэчна залічыць гэтага заслужанага нестара сучаснай беларускай фалькларыстыкі, выдатнага музыканта і віднага грамадскага дзеяча да найбольш актыўных, побач з Міхалам Федароўскім, збіральнікаў беларускага музычнага фальклору на абшары, які цяпер складае часткі паўднёва-ўсходнюю Сувальскага і паўночна-ўсходнюю Беластоцкага ваяводстваў. Але не толькі як збіральнік нашага народнага меласу блізкі нам Р. Р. Шырма. У бягучым годзе ў Мінску выйшла кніга найбольш важкіх яго артыкулаў і прамоваў з 1929 — 1939 і 1944 — 1974 гадоў — **Рыгор Шырма „Песня — душа народа“***.

У кароткім, змястоўным артыкуле В. Літвінка, да якога належыць укладанне артыкулаў, пракаменціраванне іх і забеспячэнне ў бібліяграфічны апарат, прыгадваючы асноўныя гістарычныя падзеі ў былой Заходняй Беларусі, між іншым, заўважае: „*Публіцыстычная дзейнасць Р. Шырмы да верасня 1939 года цесна лучылася з Таварыствам беларускай школы, сакратаром Галоўнай управы якога ён быў шмат гадоў*“, і далей: „*Іменна ў гэты перыяд ён пешкі абышоў амаль усю тэрыторыю Заходняй Беларусі, выступаючы з агітацыйна-асветніцкімі лекцыямі. У час гэтых вандровак ён зрабіў тысячы запісаў музычнага фальклору, чым збярог багаты народна-песенны скарб*“. І вось тады Р. Шырма наведаў значную колькасць вёсак і мястэчак у нашым краі, пачынаючы ад горада Аўгустова на поўначы да мястэчка Белавежы на поўдні, пазнаёміўся з сотнямі мясцовых дзеячоў ТБШ, Грамады, беларускай мастацкай самадзейнасці, выдатных народных спевакоў.

У № 3-4 часопіса „Летапіс“ за 1933 г. ён папярэджвае падборку вершаў Васіля Юраўца — рабочага тэкстыльнай фабрыкі з Гарадка каля Беластока — артыкулам, прасякнутым глыбокім веданнем палажэння працоўнага люду на тагачаснай Беласточчыне, у якім, між іншым, заўважае: „*Калі б на вёсцы вялася належная, усведамляльная праца, то не было б месца і дзікаму фанатызму розных сектаў, якія выпускаюць сваіх „прарокаў“, каб дурманіць цёмных сялян. З прычыны паяўлення такога „прарока“ Гальяша ў в. Грыбаўцы Юравец піша да сваіх сяброў:*

*Пабудуй, сябры, бар'еры,*
*Закладзеце ТБШа, —*
*Цуд пакажам, дасце веры,*
*Лепшы, чым у Гальяша.*

*Вось чым трэба змагацца са здзічэннем: усведамляльнай культурна-асветнай працай, якую вядзе Таварыства*“. Свае крытычныя заўвагі і парады паэту Р. Р. Шырма заканчвае такімі радкамі: „*Нам хочацца, каб у наступных сваіх творах Юравец мінуў усе гэтыя недахопы, каб іскра паэзіі, якая засвяцілася там, каля Беластока, між сябрамі ТБШ, загарэлася яснай зоркай для ўсёй Беларусі. Мы вітаем першае літаратурнае выступленне маладога паэта з добрымі задаткамі здаровага гумару, бадзёрасці і адвагі, якія так патрэбны нашаму народу*“.

Сэрца Р. Р. Шырмы заўсёды радавалася кожнаму поспеху на ніве роднай асветы і культуры. У артыкуле „Да гісторыі працы над беларускай песняй“ („Беларускі летапіс“ № 1 за 1939 г.) ён з гонарам сцвярджае: „*Сярод культурна-асветных арганізацый першае месца займае* (у стварэнні беларускіх народных хораў і аркестраў — М. Г.). *Таварыства беларускай школы, якое за час свайго існавання* (ТБШ пачало сваю дзейнасць у 1921 г. — М. Г.) *зладзіла каля паўтары тысячы канцэртаў і спектакляў*“, а да ліку найлепшых хораў ён адносіць, між іншым, хоры ў Беластоку і мястэчку Гарадок Беластоцкі.

Нядаўна (г.зн. ужо шэсць-сем год таму назад) Р. Р. Шырма ва ўступным артыкуле да зборніка вершаў гродзенска-беластоцкага паэта Сяргея Крыўца, што загінуў у красавіку 1945 г. пры вызваленні Гдыні, між іншым, прыгадвае наступнае: „*З багатым жыццёвым дасведчаннем, з глыбокімі назіраннямі чулай душы паэт асеў у Беластоку, дзе сутыкаецца з моцнай рабочай праслойкай. Там ён прымае ўдзел у рэвалюцыйным руху, але там, як і іншыя паэты Заходняй Беларусі, не мінае астрога. Сяргей Крывец ведаў літаратуру і любіў яе. Прыемна было весці з ім бяседы на літаратурныя тэмы, чытаць жывыя, вострасатырычныя яго апавяданні. Бывала, цэлымі начамі мы хадзілі па ўскраінах Беластока і ў бяседах пра Горкага і Чэхава, пра Пушкіна і Міцкевіча, пра Купалу і Коласа, пра савецкую і заходнееўрапейскую літаратуру не заўважалі, калі „ўсход разгараўся пурпурнай палоскай“. Гэты рабочы з асветай за два класы пачатковай школы меў багатую літаратурную эрудыцыю*“.

І сапраўды: „*Крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, выступленні і нататкі, сабраныя ў гэтай кнізе, пісаліся на працягу амаль паўстагоддзя*, — заўважае вядомы сучасны паэт і навуковы работнік Мінскага універсітэта д-р Ніл Гілевіч у сваім прасякнутым любоўю і пашанай да Р.Р. Шырмы ўступным артыкуле да гэтай кнігі. — *Калі б нават чытач да гэтага часу нічога не чуў і не ведаў пра яе аўтара, то ўсё роўна са старонак кнігі паўстане перад намі мужная постаць мастака, творцы і маэстра, чыё слова — не толькі і не столькі пазнавальна-гістарычны дакумент, колькі — незаржавелая, вострая зброя ў барацьбе за ідэйна-эстэтычныя прынцыпы камуністычнага мастацтва... Ад самых першых выступленняў у друку і да сягоння Шырма заўсёды быў і застаецца байцом, змагаром за мастацтва праўдзівае і глыбока народнае, за мастацтва нацыянальна-самабытнае і ў той жа час — прасякнутае духам сапраўднага інтэрнацыяналізму*“.

**Мікалай Гайдук**



*Рыгор Шырма ў часе выступлення ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі на ўрачыстым вечары, прысвечаным 150-годдзю з дня нараджэння вялікага польскага кампазітара, ураджэнца Беларусі Станіслава Манюшкі.*

* **Шырма Рыгор,** Песня — душа народа, Мінск 1976.

## Што новага?

# Свая бомба

— Усё ў парадку, бабуля. З татам усё о'кэй. Але ён так заняты, што не можа падысці да... мікрафона...

Дзяўчынка гаворыць дрыжачым голасам, радыё разносіць яго па ўсіх кантынентах. „Тата заняты“ расшыфроўваецца так: вядомы англійскі фізік сэр Уільям Уэстлейк, спецыяліст у галіне ядзернай зброі, захоплены тэрарыстамі. Захоплены разам з караблём „Мэлард“, які перавозіць ядзерныя боегалоўкі з базы падводных лодак Фэслейн у Портсмут. Тэрарысты, натуральна, дзейнічаюць на інструкцыях, якія ідуць з-за граніцы ад „чырвоных“.

А ці была дзяўчынка? Не было дзяўчынкі. Не было бабулі. Не існуе і славуты ядзершчык Уэстлейк. Боегалоўкі, праўда, ёсць, і хутка на іх з'явіцца новае кляймо: „Зроблена ў Вялікабрытаніі“. Але пра гэта ніжэй. Радыёкрык жа прыдуман Чэмпенам Пінчэрам, які напісаў штосьці накшталт фантастычнай аповесці з вельмі дрэнным прагнозам для Англіі: эканоміка яшчэ больш пахіснулася, замежныя разведчыкі сталі зусім нахабнымі і да таго ж прэм'ер-міністрам становіцца жанчына, якую завуць Маргарэт Флетчэр.

Пінчэр, змяшаўшы рэальнасць і хлусню, зноў абліў англічан страхам „чырвонай небяспекі“, падмяніўшы ёю небяспеку сапраўдную.

Справа ў тым, што звычайныя — старамодныя — самаробныя бомбы ўзрываюцца ў Лондане ледзь не праз дзень. У метро, на вакзалах чыгункі. Па начах „пякельныя машыны“ пхаюць пад аўтамабілі, а ўдзень кідаюць у вокны рэстаранаў. І ўжо нікога не здзіўляе аб'ява ля ўваходу ў піўную: „Прабачце, мы праверым ваш партфель“.

Але не будзе дзіўным, папярэджвае прэса, калі ў ход пойдзе і атамная бомба. Яе ж можна ўкрасці. Няхай не адразу, не цалкам, без хваставога апярэння, няхай па частках, але ўкрасці. Або купіць. Газеты перадрукавалі артыкул амерыканскага эксперта доктара Джона Вольфа, які з'явіўся ў лонданскім „Паліцэйскім часопісе“, аб тым, што „палітычныя актывісты і тэрарысты ў стане вырабіць двухмегатонную бомбу — прыкладна ў сто разоў больш магутную, чым тая, якая разбурыла Хірасіму. Будзе каштаваць гэта толькі дзесяць тысяч фунтаў стэрлінгаў“. Вядучыя фізікі, гаворыцца там жа, прыйшлі да вываду, што, выкраўшы 20 фунтаў плутонію і ведаючы тэхналогію вытворчасці, тэрарысты ў стане зрабіць бомбу.

Не ўпершыню гучаць такія перасцярогі і ў ЗША, і ў Заходняй Еўропе. Яны не такія ўжо беспадстаўныя і грунтуюцца на тым, што пры цяперашніх метадах налётаў і аграбленняў нельга лічыць немагчымым і выкраданне ядзернай бомбы або матэрыялу для яе вырабу.

Але ці ёсць што ўкрасці ў англічан? Ёсць, а будзе яшчэ больш. Дарэчы, перасцярогі амерыканскага эксперта ўспрымаюцца цяпер як прафілактычныя парады. Яны з'явіліся ў друку праз некалькі дзён пасля таго, як міністэрства абароны аб'явіла: цяпер мы самі будзем вырабляць ядзерную зброю. Да гэтага часу англійскія самалёты „Ягуар“ і „Тарнада“ чаплялі пад крылы амерыканскія бомбы, хутка пачнуць чапляць толькі свае, дарэчы, больш магутныя. Акрамя таго, мы самі будзем рабіць, гаворыць міністэрства, боегалоўкі для ракет „Паларыс“.

Гэта „экстраардынарнае“, як яго назвалі ў прэсе, рашэнне адразу ж паставіла шэраг пытанняў, якія застаюцца да гэтага часу без адказу. „Таймс“ адзначае, што ваенныя не даюць тлумачэнняў наконт таго, чаму выраб англійскіх бомбаў „нечакана стаў больш зручным, чым раней“. Ды і аб незалежнасці ад ЗША ў гэтай галіне пішацца не інакш, як у двукоссі. У кантэксце адносін гэтых краін у рамках НАТО, дададзім мы, размовы аб такой „незалежнасці“ гучаць і сапраўды дзіўна...

З рэзкай крытыкай міністэрства абароны выступіла ўплывовая група левых лейбарыстаў. Не толькі не трэба павялічваць затраты на ядзерную зброю, лічаць яны, але неабходна скараціць і цяперашнія. Новы завод, дзе будуць выпускацца брытанскія бомбы, будзе каштаваць мільён фунтаў стэрлінгаў.

У той час, калі Пінчэр, „самы дасведчаны ў ваенных справах“ журналіст, крычыць аб небяспеках міфічных, міністэрства абароны робіць зусім рэальны і сапраўды небяспечны крок на шляху гонкі ўзбраенняў. Усё лагічна і нават знаёма. Яшчэ ў эпоху дрэдноўтаў прыкрыццё манеўраў адбывалася з дапамогай дымавой заслоны.

**Э. Чэпараў**
(АДН)

„Ніва“ № 37 (1072) 12 верасня 1976 г. 2 стар.

## Telewizja Warszawa

**Sobota 11.IX.** 6.00 Radiowo-Tel. Szkoła Średnia. 8.25 Marynarze — film fab. radz. 10.00 Dla szkół (kl. VII) Zool. Świat istot jednokomórk. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 15.45 Red. Szk. zap. 15.55 Pr. I prop. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Dzien. 16.25 Obiektyw. 16.45 Dla dzieci. 17.25 Za kierownicą. 17.45 Polskie jazy na Łabie. 18.00 Sobota Mł. 18.45 Soy Libre — pr. belg. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Teatr Komedii: M. Bałucki Flirt. 21.35 Dzien. 21.55 Sport. 22.10 Sopot 76. Gala Polska.

— ◇ —

**Niedziela 12.IX.** 6.35 Tech. Rol. Fiz. 7.05 Mech. rol. 7.35 Przyp., radz. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.10 Sport dla wszystk. 8.25 Pr. dnia. 8.30 Sport. 8.40 Antena. 9.00 TELERANEK. 9.45 DOŻYNKI — trans. z Płocka. 13.35 Koncert OIRT. 14.35 Dla dzieci. 15.20 Los. Duż. Lot. 15.35 Kraj złota i słońca — SIERRA. 16.10 H. Kunicka zaprasza. 17.00 Sport. 17.50 Teatr Muz. J. Tuwim. Porwanie Sabinek. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Top Kapi — film fab. USA. 22.25 Sport.

— ◇ —

**Poniedziałek 13.IX.** 12.45 Radiowo-Tel. Szkoła Śred. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.10 Gorące serca — film ser. (odc. ostatni). 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: Stary, Głupi i Anioł. 21.30 Utwory dla moich przyjaciół. 22.20 X Y Z cz. I. 22.55 Dzien.

— ◇ —

**Wtorek 14.IX.** 6.00 Radiowo-Tel. Szkoła Śred. 7.00 Top Kapi — film fab. USA. 9.00 Dla szkół (kl. V) J. pol. M. Konopnicka. 10.00 (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 11.05 (kl. III lic.) J. pol. A. Strindberg — Taniec śmierci. 12.00 (kl. VIII) Hist. O wolną i niepodległą. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chemia. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i mał. ekr. 17.25 Pr. publ. 17.50 Fakty, op., hip. 18.20 Stud. Mł. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Kochankowie roku pierwszego — film fab. CSRS. 21.50 Interstud. 22.10 Dzien. 22.35 Sport.

— ◇ —

**Środa 15.IX.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 7.30 Kochankowie roku pierwszego — film fab. CSRS. 9.00 Dla szkół (kl. VII) Chem. Czym są metale. 10.00 (kl. V) Hist. W Egipcie Faraonów. 11.05 (kl. VII) St. Staszic. 12.45 Radiowo-Tel. Szkoła Śred. 13.20 Tech. Rol. Hod. zwierz. 14.20 NURT. 14.50 Pr. dnia. 14.55 P. nożna STAL-Mielec—REAL-Madryt. 16.50 Dzien. 17.00 Dla dzieci. 17.25 Los. Mał. Lot. 17.40 Lekt. Pegaza. 18.00 Przed ekranem. 18.35 Pr. publ. 18.55 Pr. estrad. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Filmy Bergmana: Kobiety czekają — film fab. 22.05 Spotkanie z Henri Seroką. 22.50 Dzien.

— ◇ —

**Czwartek 16.IX.** 6.00 Radiowo-Tel. Szk. Śred. 6.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. 8.15 Kobiety czekają — film fab. szw. 10.00 Dla szkół (kl. VI) Hist. Na polach Grunwaldu. 11.05 (kl. VII) J. pol. J. Kochanowski. 12.30 Decyzje piętnastolatków. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratk. 18.15 Notatnik podchorążego — rep. film. 18.40 Konsylium cz. I. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Po śmierć dzwonić raz — film fab. ang. 21.25 Pegaz. 22.50 Konsylium cz. II. 22.10 Dzien. 22.25 Sport.

— ◇ —

**Piątek 17.IX.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Hod. zwierz. 8.55 Po śmierć dzwonić raz — film fab. ang. 10.00 Dla szkół (kl. VI) Geogr. Ukształt. pow. Polski. 11.05 Dla najmł. U sąsiadów. 12.00 (kl. VIII) Wych. ob. Program Partii — programem narodu. 12.45 Radiowo-Tel. Szkoła Śred. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Dla mł. widzów. 18.05 Progi i bariery. 18.55 Na wędrownym szlaku reniferów — film dok. radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr Małych Form: T. Rittner — Odwiedziny o zmroku. 20.55 Wrocł. spotk. z piosenką. 21.25 Polska—Japonia — rep. 21.40 Dzien. 21.45 L. Kydryński przedst. DEMIS ROUSSOS.

## Тэлевізія Мінск

**Piątek 10.IX** — 8.00 Film fab. 9.20 Koncert. 14.00 Film fab. 17.00 Hokej. ZSRR—USA. 19.30 Hokej. Czechosł.—Kanada.

**Sobota 11.IX** — 11.45 Śpiewa G. Olejniczenko. 12.05 Film fab. 15.00 W świecie zwierz. 16.15 Film anim. 17.00 P. nożna. Ararat—Spartak. 2 połowa. 17.45 Film fab. 19.30 Sopot—76.

**Niedziela 12.IX** — 9.00 Spektakl TV. 12.00 Film fab. 13.40 Koncert. 15.00 Klub film. 16.15 Filmy anim. 17.00 Hokej. ZSRR—Kanada. 20.35 Filmy anim. dla dor.

## Кіно

**Białowieża** Anna i komandor — radz. 14—15. Cześć artysto — fr. 16—17. Mgła nie ukryje zdrajcy — rum. 18—19.

**Gródek** Anna i komandor — radz. 18—19.

**Kleszczele** Cień — pol. 14—15. Pan Wołodyjowski — pol. 16—17. Kazimierz Wielki — pol. 18—19.

**Michałowo** Los generała — radz. 14—15. Mazepa — pol. 16—17. Zła noc — czes. 18—19.

**Mielnik** Rozerwany pierścień — radz. 15. Charly Warrick — USA 18—19.

**Narew** Szary okrutnik — radz. Zew krwi — ang. 15—19.

**Nurzec** Ściana — rum. 14—15. Pies za burtą — radz. 16—17. Linie — pol. 18—19.

B.Z.Graf. Zam. 2049 F-4.




## ЧАГО ТОЛЬКІ ДУША ЗАХОЧА...

Што-што, а тое, што бяльчане напавал пхаюцца на экскурсіі, незразумела... Тут жа ўсё, чаго толькі душа захоча: і кіно, і цырк, і тэатр, і заасад з цудоўным гатункам малп, і прыгожая сажалка, якую назвалі ксяндзовым ставам. А найважнейшае, што ўсё ў адным месцы, у рамантычным цяньку старых вязаў. А калі захапіць з сабой некалькі шкляначак, зразумела ад муштарды, то і зарабіць можна. Далібог, праўда! Даўней было горш. Першае — бутэлькі былі таннейшыя, а другое — бегаць трэба было са шкляначкай, то на ксяндзоў стаў, то на Лысую горку. Не ведаю толькі, чаму яе „Лысай" назвалі? Вакол жа абрасла дрэвамі... Хіба аналогія да той, што ў Свентакшыскіх гарах... Там калісьці наладжвалі свае з'езды чараўніцы ды вядзьмакі, а тут, у сувязі з тым, што чараўніц ды вядзьмак няма, алкаголікі збіраюцца. Але ці ж гэта не адно і тое ж! З'езды адбываюцца. Сядзі тады са шкляначкай над гэтым ксяндзовым ставам і чакай патрабуючых.

Але пяройдзем да канкрэтнага. Вось вы прыехалі ў Бельск. Чацвер — дзень таргова. Людзей аж кішма кішыць. Вазы, коні з торбамі на галаве. А вось і самаход з півам паявіўся, які адразу абляпілі тыя, якіх смага надта сушыць. А вы ходзіце між страганаў ды прыглядаецеся, што дзе прадаюць. Дзень, аднак, нявечны. Стукнуў поўдзень — і пачынае сонца хіліцца да нізу. Пусцее рынак. Нехта толькі яшчэ кляне, што худую курку яму прадалі, і, здаецца, быццам бы ўсё заціхала. Але ж не. Гэта яшчэ толькі пачатак. Перад вамі найважнейшае. Мастацкая частка. Вось зірніце! Над сажалкай сядзіць нейкі летуценны рыбак, якому дзе вада, там і рыба, і пхае вачыма корачак. А там далей ужо мітусяцца. То ў адным, то ў другім месцы паяўляюцца групкі тых, якія дамоў не спяшаюцца. Кладуць перад сабой пачак солі, корч вырванай цыбулі, ды яшчэ сёетое на зуб, ну і паяўляецца яна — беленькая, чысценькая, у чырвоным бэціку дачушка беластоцкага „Польмасу". І пачынаюцца пошукі шклянкі. Ну, і пайшла кругам, як люлька міру ў індзейцаў. Ужо і сонца хаваецца за гарызонт, калі ў горадзе ёсць гарызонт, а шкляначка як кружыла, дык і кружыць. І толькі праз нейкі час, быццам бы з грудзей кідаючагася ў агоніі звера, вырываецца рык. Але ж не. Гэта не рык. Гэта ж песня. Спяваюць на два галасы. З аднаго боку сажалкі можна разабраць пасобныя словы: „Гуралю, чы ці не жаль...", а з другога тое ж самае: „Шумел камыш...". На сярэдзіне ўсё гэта збіраецца ў такое выццё, што ўсе святыя ды грэшныя не разбяруць. А рыбак сядзіць ды зубамі скрыгоча. Вядома, палохаюць. Не ў тым рэч, што рыбы тут няма, але каб былі, то напэўна спалохаліся б. А вось наступны нумар праграмы — вучоба хадзьбы, па зямлі, зразумела. Вось падымаецца адзін. Сарочка з пінжаком на галаву закінулася. Спачатку падымаецца зад, ды і то хістаючыся, бо або адна, або другая нага на калена падае. Рукі то і вогуле ад зямлі адарвацца не могуць. Гэта адзін. А іх жа тут шмат. І ўявіце сабе, калі так чалавек шэсць, стоячы ракам, пачне тыркаць носам у зямлю. Як відаць, навучыцца хадзіць не так проста. Гэта выглядае зусім так, як тыя танцы, што яшчэ так нядаўна моднымі былі. Толькі там назад хіліліся. Ну, але каб было цікавей заўжды трэба нешта новае дабавіць. І наступае апошні пункт праграмы — хто выпіў апошнюю чарку?

— Мая чарга, — крычыць адзін.

— Не, мая, — балбоча другі.

А трэці як не смальне, абух, па макаўках ды за бутэльку. І пачалося. Здаецца і хадзіць не ўмелі, а раптам усе на ногі паўставалі і давай соваць адзін другому кулакамі. Але дзе там пападзеш, калі ад свайго маху падаеш. Калі, аднак, добра пойдзе, то канец праграмы можа адбыцца ў сажалцы. А бедны рыбак, думаючы, што нарэшце ўзяло, так і рване вудачку. Ці ж не цудоўна, ці ж не весела? Другой такой мясціны са свячой шукаць трэба.

**Бізун**






Каб не высокі цагляны комін і грузавыя машыны ды трактары, якія што нейкі час выязджаюць, вывозячы прыгожа выпаленую цэглу, ніхто б, хто ўпершыню сюды трапіў, не сказаў бы, што гэта цагельня. Вялікая, патанаючая ў зелені дрэў плошча-панадворак, відаць сохнуць там аж да бяла. А потым дарога пойдзе ў гарачую печ тыпу „Гофман", дзе „пякуцца" каля тыдня. Потым гатовая прыгожая цэгла, амаль адразу трапляе на машыны патрабавальнікаў (на гэтую чвэрць запатрабаванні злажыла 68 розных установаў) і вандруе ці то

каб сохнуць там аж да бяла.

— Абсалютна не. Але ж не марнавацца гліне. Гэта ж нармальная добрая гліна. Замест вяртаць яе на папярэдні шлях, адсылаем у кафлярню. Там таксама спатрэбіцца.

Прадпрыемства, зразумела, рэнтабельнае. План на бягучы год налічвае 3 800 тыс. штук сырога вырабу. Калі будзем браць пад увагу гатовыя цэглы, то 3 400 тыс. штук. Дзе прапалі 400 тыс. штук? Яны застаюцца як падрыхтаваная сыравіна да печы на першую чвэрць наступнага года, бо зімой гліны не дастаюць, а печ жа працуе. Праўда, на адну змену. Каб план выканаць, а нават і перавыканаць, дырэкцыя ўвяла месячныя заданні. Гэта вельмі дапамагае.

— Можа некалькі прозвішч найлепшых працаўнікоў? — звяртаемся да дырэктара.

— Калі пералічваць, то ўсіх. У нас усе стараюцца як могуць і няма ні лепшых ні горшых. Тое, што ёсць — аднолькавая заслуга ўсіх, — гаворыць дырэктар і паціскае на развітанне руку.

тае чысцінёй і парадкам.

Керамічнае прадпрыемства ў Лесанцы, што ў гміне Міхалова, сваю вытворчасць пачало ў 1950 годзе. Шмат разоў змяняўся выгляд гэтага невялічкага прадпрыемства. Бягучы год таксама ўнёс пэўныя змяненні, якія намнога палепшылі ўмовы працы. Падняты вышэй і перабудаваны цэлы дах. Замест папы, якая працякала, пакрыты азбеставай чарапіцай. І прыгажэй і выгадней. Але зоймемся справамі бліжэйшымі вытворчасці. Керамічнае прадпрыемства ў Лесанцы, дырэктарам якога з'яўляецца ад 1974 года Генадзій Самосюк (працу сваю пачаў, калі прадпрыемства ставіла першыя крокі і ад простага рабочага прайшоў усе ступені), працуе на дзве змены, даючы працу сорак тром рабочым.

Вытворчасць тут распачынаюць вясною, калі адступіць мароз і зямля дасць гліну.

Што ж тут робяць? Зразумела, цэглу! Але нас цікавіць якую. Паўстае яна тут у двух розных гатунках — так званая поўная і пустацелая. Гліну, якую давозяць спецыяльнымі возікамі па рэйках, вымешваюць згодна з рэцэптурай і пускаюць стужкай на прас, з якога выходзіць цэлы, адпаведна збіты і ўфармаваны цяг, які, у сваю чаргу, спецыяльная механічная піла рэжа на роўныя цагліны. Гэтыя кладуць на завешаныя на рухомым ланцугу кошыкі і едуць яны ў прасторную залу, дзе, дзякуючы рукам чатырох працаўніц, вандруюць на полкі вялікіх шаф, на дзяржаўныя, ці на прыватныя пабудовы. За месяц печ гэтая дае 400 тыс. штук цэглы. Варта таксама дзеля прыкладу прывесці, што на тысячу штук поўнай ідзе два з паловай кубічных метраў гліны, а пустацельнай — два кубічныя метры. Калі пры цаглянай сыравіне, то нельга абмінуць і таго, што тут нічога не марнуецца. Усе разваліўшыеся цэглы (якія яшчэ не трапілі ў печ) сабіраюць на машыну і аддаюць на выраб кафель.

— Ці гэта абазначала б, што кафлі робяць з адпадаў? — звяртаемся да дырэктара.

**Міхась Шаховіч**

Фота: Я. Цялушэцкага




*Ніякія атамныя бомбы, ніякая злая сіла не наводзіць на чалавека такога страху як „пажаданне": — Каб табе ўсе плечы паабціналі. Як жа ж тады жыць?* (мш)




### ПАРАСОНЫ

*Парасоны, парасоны*
*пад спаўдзельняю стаят,*
*а пад імі без утомы*
*піва п'ют і гаманят.*

*Піва яснэ ні з асадам,*
*на аднаго куфляў пяць.*
*Потым, устаўшы, ходзіш задам,*
*а другі ні можэ ўстаць.*

*Кіне ўлева, чы то ўправа,*
*чы назад, чы напярод.*
*Тут адно ест добра справа,*
*Што культурны п'е народ.*

*Усё добра ў нас, культура!*
*Так было да гэтых пор,*
*але выйшла авантура...*
*Чуў такі я разгавор.*

*Чалавек пасля работы*
*у ляску сабе папіў —*
*і прапалі яго боты:*
*чы хто ўзяў, чы сам згубіў.*

*Каб узяў хто? Ніпавінна,*
*адвячорак тады быў.*
*А забыць? То гэта ж крыўдна —*
*Нізамнога ён папіў.*

*Чарак пару ён адмерыў,*
*пасядзеў і паляжаў,*
*свой багаж ён ні праверыў*
*як да дому ад'язджаў.*

*Левай й праваю нагою*
*круціў свой веласіпед,*
*пазнаў толькі за гарою:*
*чаравікаў прапаў й след.*

**Фёдар Хлябіч**
Рыбакі




У Беластоку можна набыць наступныя кнігі:

Зімовыя песні, 1975, стар. 736, цана 23 зл. 30 гр.

Чарговы том выдання „Беларуская народная творчасць", якое выпускае Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. У том увайшло 766 тэкстаў і 250 мелодый калядак і шчадровак, сабраных на працягу звыш 150 год рознымі збіральнікамі фальклору на Беларусі. Рэдактарам тома з'яўляецца вядомы беларускі гісторык і этнограф М. Я. Грынблат.

Такі ён быў, 1975, стар. 364, цана 7 зл. 80 гр.

У гэты зборнік увайшлі ўспаміны пра Янку Купалу яго родных і сяброў, а таксама рускіх, украінскіх, літоўскіх і беларускіх пісьменнікаў, дзеячоў культуры і мастацтва.

**Казека Янка,** Голас часу, 1975, стар 384, цана 6 зл. 50 гр.

У кнігу ўвайшлі артыкулы і літаратурныя партрэты пяра сучаснага беларускага савецкага літаратуразнаўцы і крытыка. У іх ён разглядае творчасць К. Крапівы, Я. Коласа, К. Чорнага, І. Мележа, В. Віткі, З. Бядулі, П. Пестрака, В. Каваля, С. Баранавых, М. Грамыкі, В. Гарбацэвіча, Б. Гарбука.

**Матрунёнак А. П.** Псіхалагічны аналіз і станаўленне беларускага рамана, 1975, стар. 304, цана 12 зл. 70 гр.

Гэта адна з піянерскіх у беларускім літаратуразнаўстве манаграфій аб псіхалагічных матывацыях у беларускім рамане. Аўтар базуецца на творчасці беларускіх празаікаў 20-30 гадоў, і перш за ўсё на творах Я. Коласа, К. Чорнага, М. Зарыцкага, Ц. Гартнага і іншых.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: **„Dom Książki", 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.**

(мг)

(Працяг са стар. 1)

# БЛЯСКІ І ЦЕНІ ШКОЛЬНІЦТВА Ў КУЗНІЦЫ

лявалі сцены, падлогі і лаўкі. Зрэшты, у нас у гміне ўжо так прынята: перад заканчэннем навучальнага года адрамантаваць школьны будынак так, як бы мы яго хацелі бачыць у першы дзень новага навучальнага года. І гэта здае экзамен. На працягу апошніх двух год школы ў Кузніцы і Паўловічах з'яўляюцца перадавікамі ў спаборніцтвах пад лозунгам „Моладзь сваёй школе і асяроддзю". У 1974/75 годзе школа ў Кузніцы заняла першае месца ў павеце і атрымала грашовую ўзнагароду 50 тысяч злотых, за якія мы набылі школьнае абсталяванне і дапаможнікі. У мінулым годзе першае месца ў ваяводстве заняла школа ў Паўловічах. Наогул нашыя школы імкнуцца так упарадкаваць сваё наваколле, каб быць прыкладам і ўзорам для свае мясцовасці.

— І ўсё ідзе вам так гладка?

— О, не! Маем цяжкасці і то вялікія. Перш за ўсё ў нас не хапае 5 настаўнікаў з кваліфікацыямі па фізкультуры і тэхнічнаму выхаванню. Бракуе таксама каля 20 кватэраў для настаўнікаў. Нявесела выглядае справа забеспячэння школаў у новае абсталяванне і навуковыя дапаможнікі. На пачатку года мы склалі заказы ў ЦЭЗАС-е на суму 96 тысяч злотых, але да гэтай пары нам выканалі пастаўкі ўсяго на каля 40 тысяч злотых. Зацягваецца справа пабудовы новага школьнага будынка ў Кузніцы. Наш дагэтуляшні будынак, як самі бачыце, ужо стары і мае ўсяго 8 класаў, а навучаецца ў ім 364 вучні. Праўда, грамадскім чынам мы загаспадаравалі бяспанскі барак. Абсталявалі ў ім святліцу з абедамі, бібліятэку і школьны спартыўны клуб. Але гэта ж не ліквідуе праблемы. Нам патрэбен сучасны школьны будынак. Нявесела таксама прадстаўляецца і справа адбудовы аднаго з будынкаў школы ў Паўловічах. Школа там па-



*Гмінны дырэктар у Кузніцы Станіслаў Клім.*

мяшчаецца ў комплексе будынкаў былога памешчыцкага двара. Ён знаходзіцца пад наглядам Ваяводскага кансерватара помнікаў старадаўнасці. Сваю таблічку кансерватар павесіў на муры, а мы абавязаны захаваць помнік. І вось каб адбудаваць і рэстаўраваць адзін яго флігель, мы мусім патраціць столькі сродкаў, колькі іх пайшло б на ўзвядзенне двух новых школьных будынкаў. Таму мы і звяртаемся да Ваяводскага кансерватара, каб прыйшоў нам з фінансавай дапамогай у гэтай справе, бо самі мы не дамо рады. Вось, здаецца, усе асноўныя цяжкасці ў нашай працы.

— Ці яны настройваюць вас песімістычна?

— Не. Я ўпэўнены, што яны паступова будуць ліквідаваны, а ўвесь працэс выхавання і адукацыі ў нашых школах у бягучым годзе будзе праходзіць на больш высокім узроўні, чым у мінулым годзе. Залог гэтаму — ахвярнасць нашых настаўнікаў і прыхільнасць да школьных спраў усяе нашай грамадскасці.

**Гутарыў І. Снарскі**
**Фота аўтара.**

## З рэпарцёрскіх запісак

Беласток безупынна прыцягвае да сябе жыхароў усяго ваяводства, ды і іншых раёнаў краіны. Толькі за пяць гадоў — ад 1971 да 1976 года — колькасць жыхароў нашага ваяводскага цэнтра павялічылася на 27 тысяч 800 чалавек. Амаль палова (дакладна 46,8%) усіх тых, што пакідаюць вёску ў Беластоцкім ваяводстве, адразу накіроўваецца ў Беласток. Іншыя шукаюць сабе месца і шчасця ў другіх мястэчках Беласточчыны. Такім чынам, цяпер жыве ўжо ў гарадах амаль 40% усяго насельніцтва Беластоцкага ваяводства.

* * *

Найчасцей перасяляюцца ў гарады, а перш за ўсё ў Беласток, людзі маладыя. Яны зараз жа выходзяць замуж, жэняцца і патрабуюць памяшканняў. Гарадскія ўлады ў гэтай пяцігодцы больш чым у два разы павялічваюць размеры жыллёвага будаўніцтва ў параўнанні з папярэднім перыядам. У гадах 1976-1980 пабудуюць у беластоцкім ваяводстве:

— рады нарадовыя — 1500 кватэр,

— прамысловыя прадпрыемствы — 2 800 кватэр,

— кааператывы — 18 000 кватэр.

Разам за гэты час 22 300 сем'яў пераселіцца ў новыя кватэры. На жаль, яшчэ больш будзе чакаць кватэр, ды чакаць вельмі доўга, бо для прыкладу, у Беластоцкім жыллёвым кааператыве новым членам абяцаюць кватэру не раней чым праз 8-9 гадоў.

* * *

Паводле гарадскіх планаў, жыллёвае будаўніцтва галоўным чынам размеркавана ў Беластоку ў наступных кварталах:

— Высокі Сточак — 3500 кватэр, перш за ўсё з будаўніцтва рады нарадовай і прамысловых прадпрыемстваў, пачатак будовы ў 1976 годзе.

— Беласточак — 4500 памяшканняў, будаўніцтва кааператыўнае, пачатак у 1976 годзе.

— Скарупы — 2300 кватэр, пачатак у 1976 годзе.

— Старасельцы-Марчук — 5150 кватэр, пачатак у 1978 годзе.

— Пяста, далейшая разбудова на пасёлку „Д" — 2950 кватэр, пачатак будовы ў 1979 годзе.

— Пасёлак „Новае" (у раёне вуліц Шэнвальда і Міцкевіча) — 450 кватэр, пачатак у 1980 годзе. (вр)

# ЯК МІЛЕЙЧУКІ БУНТАВАЛІСЯ



*Гэтая вуліца, пры якой цяпер знаходзіцца старэнькая царкоўка вядзе да месца, дзе калісьці быў панскі двор.*

(Працяг са стар. 1)

У 1820 годзе яны напалі на парабкаў Клейна, які загадаў гэтым парабкам касіць сенажаці мілейчукоў. Сілай адабралі ў іх 50 вазоў сена, пабілі цівуна і стражніка, адабралі ў іх стрэльбы, а цівуна ледзь не павесілі. Затым мілейчукі засеялі 60 моргаў памешчыцкай зямлі, якую раней адабраў у іх гэты Клейн.

Для падаўлення гэтага бунту ў жніўні 1820 года быў накіраваны ў Мілейчыцы атрад салдат, якому ўдалося выгнаць да працы на паншчыну ўсяго ледзь 93 чалавек. Іншыя жыхары Мілейчыц паўцякалі і пахаваліся ў лесе.

Два гады пазней, летам 1822 года ў Мілейчыцах зноў закішэла. Аднойчы ноччу загарэўся фальварак. Агонь хутка ахапіў усе будынкі. Гасіць пажар не было каму, бо ўсе мілейчукі зноў уцяклі ў лес. Пан свае затраты ацаніў на 9.000 злотых. Сума на гэты час даволі вялікая.

У наступных гадах зноў салдаты ўціхамірвалі збунтаваных мілейчукоў. Летам 1823 года царскім салдатам дапамагаў у гэтым атрад узброенай шляхты колькасцю ў 20 чалавек, які абозам абсталяваўся ў мястэчку. Год пазней, у кастрычніку 1824 года, у Мілейчыцах знаходзілася ўжо 160 царскіх салдат, якія вялі сябе тут як у варожым краі. Трэба было іх карміць. А яны грабілі і гвалцілі, бо камандаванне давала ім поўную свабоду. І гэта на нейкі час зламала волю змагання мілейчукоў. Зрэшты, Клейну яны так надакучылі, што ён ахвотна адступіў Мілейчыцы брату гродзенскага губернатара, нейкаму Андрэйковічу, які, карыстаючыся дапамогай царскай паліцыі і войска, моцна прыціснуў мілейчукоў. Загадаў ім тры дні ў нядзелю выходзіць на паншчыну, даваць па 12 гвалтаў з хаты і столькі ж шарваркаў. За найменшую спробу бунту адпраўляў мілейчукоў у рэкруты.

Аднак і гэта не памагло. У 1848 годзе жыхары Мілейчыц зноў збунтаваліся. З дакументаў вынікае, што тадышні арандатар гэтага пасёлка, нейкі Бухавецкі, за спробу *„отискания свободы"* караў збунтаваных мілейчукоў па сто і дзвесце ўдараў розг *„посыпая виновных солью и смачивая спиртом"*.

— А што сталася з гэтым каралеўскім вашым дакументам? — пытаю дзядзьку Рыгора.

— У 1919 годзе забраў яго нейкі інспектар Яворскі з Бельска. І дакумент прапаў. А мілейчукі, застаўшыся без доказу на свае мяшчанскія правы, па сённяшні дзень не могуць нікога пераканаць, што з'яўляюцца сапраўды мяшчанамі, а не сялянамі.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА XI

**Гумарыстычная плынь.** Катэгорыя гумарыстычных вершаў у спадчыне Паўловіча найбольш разбудаваная. Напісаў ён каля сарака камічных вершаў. Некаторыя з іх налічваюць далёка за сто радкоў і па свайму характару набліжаюцца да вершаваных фельетонаў. Гумарыстычную спадчыну Паўловіча можна разглядаць у некалькіх частках, напрыклад, у аспекце: камізм сітуацыйны, камізм характару, камізм слоўны, або ў аспекце выступаючых у вершах паэта прыёмаў: гумару, іроніі, сарказму.

Можна таксама аналізаваць яго вершы ў тэматычным аспекце: ляноты, наіўнасці, хітрасці, неахайнасці, п'янства, абжорства, грубасці, зверхветлівасці, няшчырасці.

Зразумела, што прадстаўляючы гумарыстычныя вершы Паўловіча будзем адклікацца да розных аспектаў. Аднак перад усім разглянем іх паводле схемы: сямейны гумар, сацыяльны гумар, нацыянальны гумар, алегарычны гумар, антыфемістычны гумар, гумар характару.

Варта на пачатку зазначыць, што смех і высмейванне амаль ніколі ў Паўловіча не выступае ў крайняй форме. Па сутнасці чужы пісьменніку прыём сатыры. Найчасцей высмейванне выступае ў яго ў форме гумару, лагоднай іроніі, насмешкі. Другой цікавай рысай гумарыстычнай паэзіі Паўловіча з'яўляецца тое, што пісьменнік не трактуе яе як інструменту класавай або ідэалагічнай барацьбы. Селянін і пан — частыя героі гумарыстычных вершаў ставяцца пісьменнікам на той самай плоскасці. Паэт не становіцца на баку каго-колечы з іх. І мужыку і пану часта прыпісвае тыя самыя вады, недахопы і псіхічныя скрыўленасці. Аднак заўсёды высмейванне ў літаратуры звязана з маралізатарствам. Выстаўляючы такія ці іншыя чалавечыя хібы і схільнасці на публічны смех пісьменнік стараецца ліквідаваць іх. У гэтым імкненні і заключаецца маралізатарска-дыдактычны аспект літаратурнага гумару і перад усім сатыры. Аднак у выпадку творчасці Паўловіча досыць цяжка гаварыць аб маралізатарскай тэндэнцыі. Яго гумар мае наогул беспрэтэнцыёзны характар. Быць можа, што пісьменнік пішучы свае камічныя творы кіраваўся канкрэтнымі этычнымі ці грамадскімі мэтамі. Гэта значыць, што хацеў уплываць на змену звычаёвасці, захавання, паводзін, маральных норм асяроддзя, з якога выводзіліся яго героі. А ў сувязі з тым, што ў асноўным яго камічныя героі з'яўляліся прадстаўнікамі сялянскай масы, можна думаць, што паэт хацеў умешвацца ў этычнае жыццё сялянскай масы. Калі б так было, тады можна было б гаварыць аб дыдактычным характары яго камізму. Умешванне гэта аднак ніколі не выступае ў выразна акрэсленай або падкрэсленай форме. Ці з гэтага можна зрабіць вывад, што камізм Паўловіча мае характар беспрадметнага і бязмэтнага смеху. Ці можна яго назваць смехам для смеху, або скалазубствам інтэлігента, які падкрэслівае сваю перавагу над сялянскім героем. Такі падыход быў бы крайны і мабыць несправядлівы ў адносінах да гэтага паэта. Справа ў тым, што ўжо сам факт голага паказу адмоўных рыс чалавечага характару, або паводзін чалавека мае ў сабе выхаваўчы элемент. Выстаўленне скрыўленага, анармальнага, паталагічнага на публічны смех — гэта ўжо як бы форма змагання з псіхічнымі ці этычнымі недамогамі чалавека. Чытаючы гумарыстычны твор хацелася б аднак ведаць на чыім баку стаіць аўтар, каго падтрымлівае а каго асуджае, якія прапануе выхады з сітуацыі. Зразумела, што за моцна падкрэсленая прысутнасць аўтара, або катэгарычна вырашана яго ідэалогія можа прывесці да рэзультатаў адваротных у параўнанні з прапановамі аўтара. І таму можна ў нейкай ступені хваліць Паўловіча за яго „непрысутнасць" у гумарыстычных творах.

Калі можна паставіць у яго адрас закіды, дык павінны яны адносіцца перад усім да таго, што фабулы многіх яго гумарыстычных твораў пачэрпнуты мабыць не з жыцця, толькі з анекдотаў, якія кружылі ў інтэлігенцкім асяроддзі і датычылі прымітывізму селяніна. Сказанае аднак, на шчасце, датычыць далёка не ўсіх камічных твораў Паўловіча.

# ЯК ДАЕХАЦЬ У КНАРАЗЫ?

Вёска Кнаразы вялікая (112 гаспадарак) і прыгожая. У мінулым годзе пабудавана ў ёй рамізу ды святліцу, злеўню малака. Толькі дарога Кнаразы-Храбалы вельмі ж дрэнная. Калі пройдуць дажджы, тады па ёй не праехаць. Было пра яе шмат крытычных заметак на старонках „Нівы“, быў адказ начальніка гміны ў Храбалах. Некаторыя з іх варта прыгадаць.

У 24 нумары ад 15 чэрвеня 1975 г. ёсць карэспандэнцыя Жэні Андрэюк: „Закамандавалі рабіць дарогу чынам — ад Кнаразоў да Храбалоў. Пайшлі рабіць жыхары Кнаразоў і суседніх вёсак. Людзі рыдлёўкамі капалі равы па абодвух баках дарогі, а трактарысты трактарамі вазілі пясок. Навазілі, пясок так і ляжыць у горбах. Хто ведае, калі гэтую дарогу давядуць да належнага парадку“.

Зараз у наступным нумары чытаем інфармацыю пад загалоўкам „Чортава дарога“:

„Дарога Кнаразы-Храбалы пясчаная. Калі ідуць дажджы, на ёй сапраўднае балота. Дарожныя ўлады ў Бельску Падляшскім вырашылі яе палепшыць. Праца ідзе так „лоўка“, што ад снежня мінулага года на раскапанай дарозе парабіліся равы. А канца працы не відаць. Людзі, праязджаючы сюдою, ругаюць вінаватых: „Парылі, парылі — яшчэ горш, чым было, зрабілі“, — гавораць. І праўда“.

Праходзіць лета і аб гэтай жа дарозе піша да рэдакцыі „Нівы“ Міхал Кірылюк з Кнаразоў. Яго карэспандэнцыя пад загалоўкам „Ужо лета празвінела“ была змешчана ў 39 нумары ад 28 верасня 1975 г.

„Дарога ў Кнаразы вельмі ж дрэнная. У мінулым годзе гмінныя ўлады ў Храбалах атрымалі дакументацыю на пабудову жвіраванай дарогі ў нашу вёску. Ранняй вясною на гэтай дарозе каля Рыпнева пачаліся будаўнічыя работы... Потым сакратар Гміннага камітэта ПАРП Мар'ян Казлоўскі 15 красавіка арганізаваў вялікі грамадскі пачын: жыхары Кнаразоў і іншых вёсак Храбалоўскай гміны капалі равы па абодвух баках дарогі, а трактары вазілі пясок. Быў таксама начальнік гміны інж. Уладзімір Ляўко, які разам з сакратаром не толькі кіравалі работаю, але і самі папрацавалі. Мы думалі, што пабудова дарогі хутка кранецца ўперад. Аднак жа ўсё неяк абціхла, ужо лета празвінела, і не чуваць, каб хто думаў аб пачатай справе. Восень не за гарамі, наляцяць дажджы, і зноў трактары ды вазы будуць загразаць на кназоўскай дарозе-не-дарозе.

Няўжо так ганебна загіне пачатая, добрая справа?!“

На гэтую публікацыю прыслаў нам адказ начальнік гміны ў Храбалах.

W odpowiedzi na wasze pismo z dnia 29 września 1975 r. Naczelnik Gminy Chraboły informuje, że fundusze na budowę drogi do wsi Knorozy zostały przelane wykonawcy — Zarządowi Dróg Lokalnych w Bielsku Podlaskim w dniu 20.09.1975 r.

W rozmowie telefonicznej w dniu 7.10.1975 r. Kierownik Zarządu Dróg Lokalnych poinformował Naczelnika Gminy, że do budowy drogi przystąpią w bieżącym miesiącu.

Przerwa w kontynuowaniu prac drogowych nastąpiła z powodu naprawy szkód na drogach lokalnych, wyrządzonych przez obfite opady w miesiącu lipcu bieżącego roku.

**Naczelnik Gminy w Chrabołach**
**inż. Włodzimierz Lewko**

Былі мы ў камандзіроўцы 18 жніўня 1976 г. і хацелі даехаць у Кнаразы. І не даехалі. Завярнулі яшчэ ў пачатку дарогі ля Храбалаў. Нічога тут не зроблена ў тым напрамку, каб гэтая дарога была праезднай. І дождж не ішоў ні ў той, ні ў іншы дзень. Не ведаем, як даехаць у Кнаразы.

**Іван Непаседа**

**У клубе ў Гацьках**

# ГАСПАДАРЫЦЬ МОЛАДЗЬ

Добра працуюць святліца, клуб селяніна і бібліятэка ў вёсцы Гацькі. Яны — адны з лепшых у Бельскай гміне. Месцазнаходжанне іх — даволі вялікі мураваны будынак, пабудаваны чатыры гады таму назад грамадскім чынам.

Святліца займае ў ім найбольшы зал. У ім ёсць гістарычны куток з дакументамі мінулага, сцэна, а на ёй тэлевізар, праігрывацель, музычныя інструменты: гітары, мандаліны, банжо. Сцены ўпрыгожваюць карціны, насценгазеты, у якіх адлюстроўваюцца навейшыя сусветныя падзеі, шматлікія дыпломы. Дзейнасцю святліцы ў Гацьках кіруе сімпатычная дзяўчына Яўгенія Мусько, сёлетняя выпускніца сельскагаспадарчага тэхнікума ў Дайлідах. Але можна сказаць, што гаспадаром святліцы і клуба з'яўляецца моладзь. У вядзенні культурнай дзейнасці дапамагаюць Аляксандр Семянюк, Вольга Філіманюк, Васіль Белах, Зося Іванюк, Марыя Мельнічук, Зінаіда Дамброўская і іншыя дзяўчаты і юнакі.

Актыўна працуюць тут гурток ЗСМП і ЛЗС. Моладзь з Гацькоў ставіць беларускія п'есы, ахвотна вучыцца і спявае сучасныя песні. Вядома, у святліцы ці клубе можна „засядзецца“ над шахматамі, чытаючы газеты і часопісы або аглядаючы тэлевізійную праграму, але можна правесці свабодны час яшчэ цікавей і карысней. Вось, напрыклад, можна выступіць з мастацкай праграмай у той ці іншай вёсцы, каб маглі прыемна правесці час тамашнія жыхары. Самадзейнікі з Гацек выступалі ў Райску ды ў іншых навакольных вёсках. Здольнымі артыстамі з'яўляюцца: Галіна Міранюк, Яўген Коршак, Зінаіда Гаўрылюк і іншыя. У працы над ролямі дапамагае ім настаўніца Вольга Філіманюк.

Члены ЛЗС найбольш займаюцца настольным тэнісам і футболам. У іх часта адбываюцца розыгрышы са спартыўнымі камандамі з суседніх вёсак.

Светліцовая Яўгенія Мусько і кіраўнічка клуба Марыя Герасік добра арганізуюць працу з дзяцьмі. Арганізуюць для іх маленькія конкурсы, чытаюць дзіцячыя кніжкі, дэманструюць казкі з каляровых дыяфільмаў. Таму ўсе дзеці вельмі ахвотна прыходзяць у клуб у вызначаны для іх дзень.

Амаль кожны год восенню ў клубе адкрываецца вясковы дзяцінец на час капання бульбы.

У святліцы і ў клубе найбольш людзей збіраецца суботнімі і святочнымі вечарамі. Якраз у гэтыя дні адбываюцца танцавальныя вечарыны, спалучаныя з конкурсамі ці згадуй-згадуляй або іншыя культурныя мерапрыемствы. Тут адбываюцца вясковыя сходы, школьная ёлка, а нават вясельныя забавы. Раней прыязджала аб'язное кіно. На сцэне святліцы выступалі артысты лодзінскай эстрады, дзявочы хор з Плёсак ды іншыя эстрадныя калектывы. Былі цікавыя сустрэчы з ветэранамі другой сусветнай вайны, з журналістамі, у тым ліку з „Нівы“, з раднымі.

У бібліятэцы ў Гацьках багата кніжак. З яе кіраўнікі бібліятэчных пунктаў бяруць кніжкі ў Райск, Грыневічы, Храбалы, Праневічы і Гусакі.

У гандлёвай частцы клуба селяніна шырокі асартымент тавараў. Ёсць тут і школьныя прыборы, і кандытарскія вырабы, і касметыка, і кніжкі, і газеты. Марыя Герасік дбае, каб тавараў было дастаткова. Бо пакупнікоў многа, хаця крама недалёка. Ды клуб адкрыты ў нядзелі і іншыя святочныя дні.

**Я. Цялушэцкі**

**Весткі з Міхалоўскай гміны**

### НОВЫ ПГР

Дзейнічае ўжо новы ПГР у Міхалове, які пераняў 4 000 гектараў зямельных угоддзяў з ПФЗ. У 1980 годзе ён будзе гаспадарыць на 6 000 гектарах. Галоўным напрамкам прадукцыі ў ПГР будзе гадоўля быдла і авечак.

Неўзабаве ў Міхалове распачнецца будаўніцтва жыллёвага пасёлка для работнікаў ПГР і сушарні зялёных пашаў у недалёкай вёсцы Пянькі.

### ЯГАДЫ З ТАЙНІЦЫ

Восем гадоў вядзе пункт скупкі ягад і кары крушыны ў вёсцы Тайніца Гурна Лідзія Кузьміцкая, жыхарка гэтай вёскі. Найбольш іх збіраюць у лясах лясніцтва Луплянка дзеці Мікалая Усціновіча, Яна Касацкага, Генрыка Касацкага і іншых — усіх з Юшкавага Груда. Кары крушыны найбольш дастаўляе селянін Васіль Салавей з Лукі.

Тайніцкі пункт скупкі ляснога руна кожны год добра забяспечаны лубянкамі, мяшкамі на кару крушыны ды кошыкамі на грыбы. (ця)

Ф·А·

Allegro

Пуд го-ро-ю ты

мой мі-лень-кі, хо

*Пуод горою тычка, за горою*
*Любы, любы, мой мыленьк*
*хоть я нывэлічка.*
*Любы, любы, мой мыленьк*
*хоть я нывэлічка.*

Ад Марыі Семянюк, 1
нараджэння, вёска Тымя
Мікалай Гайдук, нотна
мілы Панько.



У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ
*На выстаўцы ў будынку Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...у нашай краіне працуе 1 158 бензінных станцый ЦПН, з іх 293 адкрыты цэлыя суткі.

...у мінулым годзе беластоцкія кіно наведала звыш 1 237 тысяч асоб.

...у новым навучальным годзе школьнікі атрымаюць 26 мільёнаў новых падручнікаў. Аднак не хопіць іх для ўсіх, і таму будуць выкарыстоўвацца падручнікі з папярэдніх гадоў.

....у нашай краіне дзейнічае звыш 26 тысяч цэнтраў культуры і 56 тысяч бібліятэк і бібліятэчных філіялаў.

...у Польшчы ў цэнтрах культуры працуе 18 470 асоб і ў бібліятэках — 15 359.

...у нашай дзяржаве працуе 3787 інструктараў музыкі, 1 540 інструктараў тэатру, 1 045 інструктараў танца, 665 інструктараў фатаграфіі і фільма і 756 інструктараў мастацтва, у тым ліку жывапісу. (ця)

# ДЗЕЛЯ ЛЕПШАГА ЎРАДЖАЮ

І хто б калісьці падумаў, што там дзе зямля сухая як попел, або дзе адно балота ды вада, можна будзе некалі араць, сеяць і сабіраць ураджай. Сёння гэта тое, што наіўны светапогляд свайго дзяцінства. Адзін і той самы гектар зямлі дае ў некалькі раз вышэйшы ўраджай чым калісьці. Але трэба і зямлі нешта даць. Несумненна з вялікай дапамогай прыходзіць тут меліярацыя. Кожны год, што раз то ў новым месцы, паяўляюцца раскопы, равы ды нейкія дзіўныя машыны. І за год-два шуміць тут ужо зялёнае мора. Адным словам чараўнікі. Хто ж яны? Простыя, нармальныя людзі. Каб бліжэй з усім гэтым пазнаёміцца, наведалі мы Раённае меліярацыйнае прадпрыемства ў Бельску. Што новага? Пасля заканчэння дрэнажавання на аб'екце Зубава восенню мінулага года перайшлі ў Храбалы, дзе мелі ў чатырох навакольных вёсках здрэнажаваць 700 гектараў зямельных угоддзяў з дзяржаўнага фонда зямлі. Усё ідзе даскапала. Засталося яшчэ незакончаных толькі 280 гектараў, але, згодна з планам, у лістападзе гэтага года ўсё будзе закончана. Застанецца загаспадаранне 240 гектараў зялёных угоддзяў (карчоўка, ворка і абсеянне травой). Апошнімі грунтамі — зямлёй ворнай — зоймецца ПГР. Кіраўніком меліярацыйнай групы на аб'екце Храбалы з'яўляецца Андрэй Грыгарук, чалавек сур'ёзны і працавіты, якому дакладнасць і тэрмін даражэй за ўсё.

— Які кошт усяго гэтага? — звяртаемся да дырэктара Меліярацыйнага прадпрыемства ў Бельску Юзэфа Іваноўскага.

— Звыш трынаццаці мільёнаў злотых. Але з вялікай дапамогай прыйшлі вучні трэцяга класа з Меліярацыйнага тэхнікума ў Беластоку. Працавала тут ад 21 чэрвеня да 31 ліпеня гэтага года трыццаць чалавек, здрэнажавалі шэсцьдзесят гектараў зямельных угоддзяў.

Так. Варта б яшчэ ўспомніць і пра машыны, якімі паслугоўваюцца. Асноўным абсталяваннем з'яўляюцца два эскаватары „ЭТЦ“, два эскаватары КМ-251 да капання адкрытых равоў, дрэнажныя агрэгаты (трактары на гусеніцах і плуг СП-2) і самае галоўнае — ягадка сучаснай тэхнікі — заходненямецкая машына для ўкладвання дрэнажных труб. Укладвае яна гэтыя трубы не капаючы равоў. Пры дапамозе гэтай машыны ўлажылі 40 кіламетраў дрэнажных труб. І чаго толькі чалавек не выдумае дзеля паляпшэння свайго існавання.

**М. Шаховіч**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Будынак як новы

У гміне Нараўка вядуцца бягучыя і капітальныя рамонты школ. Да капітальнага рамонту быў закваліфікаваны адзін з будынкаў у Нараўцы. Умова падпісана са Спулдзельняй рознага рамясла ў Гайнаўцы. І вось майстар Грыша Філіповіч са сваёй групай змяніў выгляд школы. Будынак як новы. Ён ашалёваны, адмаляваны, перакрыты дах з бляхі на этэрніт. Дзве залы пабольшаны, новая падлога.

У новым навучальным годзе настаўнікі і дзеці не пазналі сваёй школы.

**Аляксандр Закройшчык**

## Новы гандлёвы дом

Гайнаўка багацее. У ліпені на скрыжаванні вуліц 1 Мая і Варынскага пасля доўгай будовы быў аддадзены ў карыстанне сучасны спулдзельчы дом гандлёвы ВСС. Аб велічыні яго сведчыць кубатура — 960 кубаметраў.

СДГ вядзе продаж розных тавараў: хімічных, электрычных, гаспадарскіх, фарбы, керамікі, шкла. 30-асабовы калектыў прадаўцоў — маладыя людзі, Кіраўніком стала шматгадовая працаўніца гайнаўскага аддзялення ВСС Ніна Вярбовіч.

Як купляецца тут? Самаабслуга, і замест кошыкаў, пакупнік бярэ возік, у які кладзе пакупку і вязе да касы.

Каштаваў будынак 6 мільёнаў злотых. Гэта найбольшы і найладнейшы аб'ект у Гайнаўцы.

**Э. Вайсковіч**




### ФЭСТЫН

*Кожны год у Рыбаках*
*Фэстын адбываецца,*
*І ўся моладзь з многіх вёсак*
*На фэстын збіраецца.*

*Не ано тут маладыя*
*Вясёла гуляюць,*
*Але тожа і старыя*
*Вочы вырачаюць.*

*Кожны жыхар Рыбакоў*
*Лепеня чакае*
*І ўсіх мілых сваякоў*
*У хату запрашае.*

*Бо вядома, што за свята*
*У Рыбаках бывае.*
*Гэта фэстын БГКТ*
*Людзей сюды склікае.*

**А. С.**
Юшкаў Груд

шасавым. Кірыла Арлоўскі пазнаёміў свайго баявога таварыша з абстаноўкай на фронце і ў тыле, расказаў пра сваю работу саветніка, паскардзіўся, што ў вярхах не зусім разумеюць ролю і задачы партызанскіх падраздзяленняў.

— Васіль Корж, Аляксандр Рабцэвіч, іншыя саветнікі не раз даказвалі, што трэба партызанскія групы і атрады перавесці на тэрыторыю праціўніка, — пераканана гаварыў Арлоўскі, — граміць яго тылавыя часці, узрываць масты, пускаць пад адхон цягнікі, але камандаванне чамусьці не прыслухоўваецца да нашай думкі. Без справы мы, вядома, не сядзім. Партызаны часта робяць кароткія вылазкі за лінію фронту, нападаюць на дробныя падраздзяленні праціўніка, пускаюць пад адхон цягнікі, прыводзяць языкоў, — Арлоўскі нервова хадзіў па невялікім пакоі. — Камандаванне хваліць нашых хлопцаў, а я незадаволены.

Арлоўскі марыў аб вялікім, працяглым рэйдзе партызан на франкісцкіх тылах, старанна рыхтаваўся да яго. Але яго не пускалі: у „вярхах" па-ранейшаму не пагаджаліся з яго поглядамі на партызанскую вайну, да таго ж камандаванне ўсяляк аберагала вопытнага саветніка. І ўсё ж 30 мая 1937 года Кірыла Арлоўскі разам са Сцяпанам Ярашэнем і дзесяццю байцамі-іспанцамі перайшоў лінію фронту і накіраваўся ў глыбокі фашысцкі тыл для дыверсійнай работы.

**(Працяг будзе)**

## Вось дзе варварства!

Было гэта ў цёплы ліпеньскі дзень. Вялікая смага завяла мяне да кіёска з півам, што на Дайлідах. У пэўным моманце да акенца прапхнуўся без чаргі малады чалавек і папрасіў малы куфаль піва. Калі прадаўшчык хацеў дапоўніць куфаль, незнаёмы сказаў: „Не трэба, я і так яго піць не буду". Зацікавіла мяне гэта. Я адправіўся за незнаёмым. Побач, за кіёскам стаяла групка маладых людзей. Адзін з іх у руках трымаў варону і раз за разам апускаў яе галаву ў куфаль з півам.

Я падумаў: каб быў у сілах, схапіў бы гэтага дурня за морду і ўліў бы яму ў горла цэлае вядро дзёгцю, ці якой-небудзь другой гадасці. Яму і яго кампаніёнам, якія бяздушна рагаталі.

Другое падобнае здарэнне спаткала мяне на адным з панадворкаў у цэнтры Гайнаўкі. За прыгожай жалезнай агароджай (за ёю ў раскошнай дачы жывуць людзі з вышэйшай адукацыяй) я ўбачыў некалькі крыклівых качак. Усе яны былі прывязаны паасобна шпагатам да агароджы. Качкі, жывёліны надта рухлівыя, заблыталіся ў шнурках вельмі хутка і крычалі на ўсё горла.

Побач таго ж кіёска на Дайлідах у Беластоку расце цудоўны дуб. А на ім прымацавана цвікамі плітка з надпісам: „Скупка бутэлек, Ставова 6". Падобная плітка знаходзіцца на сасне, якая расце на вуліцы, вядучай да складу лесадраўніны ў Гайнаўцы. Цвікі сама менш чатырохцалёвыя. „Да пункту скупу бульбы" — надпіс. Праезд у гайнаўскі ГС з таго боку закрыты ўжо некалькі год. І яшчэ адзін прыклад.

Ці бачылі вы, людзі добрыя, як праводзіцца ў нас абрэзванне дрэў, галіны якіх дакранаюцца да энергетычных правадоў? Калі не, тады прашу наведайце вуліцу Паддольну ў Гайнаўцы. Жудасна! З цудоўных маладых ліп людская бяздушнасць зрабіла бясформенныя кучы зелені. Толькі таму, што камусьці не хацелася прыставіць драбіну і ўвайсці на яе. Замест абдуманага фармавання карон дрэў, бачым тут абразанне ўсіх галін, малых і тых тоўстых.

Усе дасканала ўсведамляем, як вялікую ролю ў нашым жыцці адыгрывае лес. Акрамя дабрадзействаў, як грыбы і ягады, драўніна, дзічына, жывіца і іншыя скарбы прыроды, лес з'яўляецца самай вялікай „фабрыкай" кіслароду. А кісларод — гэта ж вядома — жыццё. А тым часам, зірніце, як ён выглядае, гэты наш лес! Адно вялікае месца звалкі смецця! Толькі так можна акрэсліць лясныя месцы, якія сутыкнуцца з людской цывілізацыяй.

Стаўлю гэтыя факты пад развагу ўсіх карыстаючых з дабрадзействаў прыроды. Падумайце хоць праз хвіліну. Карыстацца гэтымі дабрадзействамі трэба ўмець.

**Сядзем**

## Пажарнікі з Дашоў

Добраахвотная пажарная каманда (ОСП) у Дашах, Кляшчэлеўскай гміны, дзейнічае ад 1949 года. Зараз гуртуе яна ў сваіх радах 20 чалавек. Большасць з іх працуе ад 50-тых гадоў.

Члены ОСП пабудавалі з дапамогай усіх сялян рамізу, якая змяшчае гараж і святліцу з клубам. У гаражы знаходзіцца пажарны самаход і супрацьпажарныя прылады.

Штогод пажарнікі праводзяць агляд будынкаў і сяліб у такіх вёсках, як Дашы, Паграбы, Жукі. За гады сваёй дзейнасці яны ўлажылі шмат працы ў развіццё Дашоў і забеспячэнне ад пажараў вёсак, прымалі ўдзел у шматлікіх пажарных акцыях, ліквідавалі многа пажараў. Ранг дашоўскай ОСП расце з году ў год.

Працай каманды кіруе камендант Андрэй Радчук. У склад праўлення ўваходзяць: Аляксей Маркевіч — намеснік каменданта, Уладзімір Марозаў — прэзас, Міхал Маркевіч — сакратар, Васіль Маркевіч — касір. Вадзіцелем пажарнай машыны з'яўляецца Аляксандр Евюк. Механікі мотапомпы: Тамаш Пікуцін, Уладзімір Дуда, Васіль Маркевіч. Да найлепшых трэба яшчэ залічыць Шымона Пікуціна і Анатоля Астапковіча.

**Марко**



## На курсах у Мінску

Сёлета, як і кожны год, група нашых настаўнікаў беларускай мовы пабывала ў Мінску на курсах павышэння кваліфікацыі. Курсы былі на высокім узроўні, праводзілі іх выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Мінскія курсы несумненна спрыяюць павышэнню ўзроўню навучання беларускай мовы ў нашых школах.

**М. Матвеюк**

## Новая гміна

У чэрвені Бабіцкая гміна ўлілася ў Шудзялаўскую. Новая гміна вялікая, звыш 40 вёсак, звыш 5 тысяч насельніцтва. Спалучэнне гмін будзе спрыяць большаму гаспадарчаму і культурнаму развіццю гэтай тэрыторыі. Ужо апрацаваны такі план.

**Віт**

## Ямы ў Бельску

На вуліцы Міцкевіча ў Бельску ёсць дзве вялікія прабоіны (дзе бюро ВСС). Яны такія вялікія, што цяжка па вуліцы праехаць. А гэта ж галоўная вуліца горада! Тут неабходны хуткі рамонт.

**Іван Кірызюк**

## Будзе новая вуліца

Вуліца Звяжынецкая ў Беластоку доўгі час была раскапанай і аб'езд быў па Вясёлай. А цяпер на Звяжынецкай рамонт. Рабочыя заліваюць асфальт. За некалькі тыдняў будзе тут шырокая і прыгожая вуліца.

Таксама пры гэтай вуліцы вырастаюць два новыя шматпавярховыя акадэмікі для студэнтаў Беластоцкай палітэхнікі. Трэці акадэмік ужо заняты маладымі жыхарамі.

**Джэны А.**

## На бельскую сажалку!..

З Бельска да ракі Нарвы каля Плёсак і ракі Арлянкі па дарозе ў Гайнаўку амаль 15 км. Астаецца яма ад выбуху бомбы, што ад вайны знаходзіцца каля чыгуначнага мосту на трасе Бельск-Леўкі. Аднак, гэта яма даволі балоцістая і занясло яе мулам, а вадзяныя расліны ўсё больш і больш яе займаюць, даючы сховак жабам і піяўкам.

У рачулцы Белай, якая плыве праз горад Бельск, купацца немагчыма. Вада ў ёй брудная і разнакаляровая. Ёю плыве бельская прамысловасць. Ад яе ідзе такі „арамат", што гусі і качкі стараюцца яе здалёк мінаць.

Дзе тады купацца бяльчанам? Застаецца толькі сажалка, што непадалёк чыгуначнай станцыі. На беразе гэтай вады бывае многа людзей, асабліва моладзі. Ніхто тут не глядзіць на тое, што на дне гэтага „возера" многа мулу, каля берага тырчаць палі, купаюцца гусі і качкі, карыстаюцца з яе каровы. У час купання вада робіцца чорная, і купаючымся пагражаюць хваробы. Вада гэтая мае адзін добры бок. У такой густой вадзе патануць немагчыма.

Аб будове басейна даўно ўжо думаюць гарадскія ўстановы ў Бельску. Створаны быў камітэт будовы. Жыхары горада і работнікі прадпрыемстваў і ўстаноў ужо тры гады таму назад далі складчыну на гэты неабходны аб'ект. Аднак, усё пакуль ціха. Дык толькі на сажалку!..

**Мікалай Няплоха**




**Я. Антосюк, с. Яфіма, Янава (гміна (Нараў).** Прапанавана вам 1 га пасбішчаў і вы не згадзіліся. Чаму? Цяпер прыйдзецца вам крыху пачакаць, пакуль хто перакажа свае зямельныя ўгоддзі дзяржаве за пенсію. Тады звярніцеся да гмінных улад у справе патрэбных вам зялёных угоддзяў.

Перад тым, пакуль вы напісалі ў рэдакцыю, вы ўжо мелі адказ у вашай справе кампетэнтных улад. На што вы спадзяваліся?

Вы прыгадваеце ў сваім пісьме адказ гмінных улад у Нарве. Мы правяралі і, аказваецца, што ён зусім іншы. Вы б лепш узяліся за гаспадарку, чымсьці за пісанне. Як нас паінфармаваў начальнік гміны, вы не так добра, як гэта відаць у вашым пісьме, вывязваецеся са сваіх абавязкаў перад дзяржавай. Аб усім гэтым самі лепш ведаеце. (ця)

**„Агнешка"!** Дашліце свой адрас.

## У Дабромілі

Ужо даўно існуе ў Дабромілі РСП. Яна налічвае 23 члены. Тут працуе 37 асоб. Галоўнай галіной гаспадаркі з'яўляецца апрацоўка зямлі. На месцы апрацоўваюць людзі звыш 200 га зямлі, у тым ліку 180 га — гэта ПФЗ.

Дабрамільская РСП мае свае аддзяленні ў Плюцічах і Піліках. У Плюцічах апрацоўваецца звыш 500 га дзяржаўнага фонду зямлі.

У гадоўлі на першае месца высоўваецца адкормліванне курэй. Такія пункты знаходзяцца ў Плюцічах і Піліках. Вядзецца таксама гадоўля кароў і цялят.

**Мікалай Няплоха**

## Дом спакойнай старасці

У гміне Нарва паўстае дом спакойнай старасці. У ім будзе жыць дзесяць асоб.

Дзякуючы начальніку гміны Віталісу Пякарскаму, які з сэрцам ставіцца да жыцця старых самотных людзей, яны змогуць спакойна, у чысціні і пад наглядам лекара, жыць у доме спакойнай старасці.

Варта, каб іншыя гміны ўзялі прыклад з гміны Нараў і паклапаціліся пра старых самотных людзей у сваіх гмінах.

А начальніку гміны ў Нарве трэба шчыра падзякаваць:

*Жыві многа лет начальнік*
*І старых не забывай!*
*А ў самой асадзе Нарва*
*Дом старасці пашырай,*
*Каб шчаслівай усім дажыці*
*Восені свайго жыцця!*
*Цябе будуць успамінаці*
*Усе людзі да канца.*

**М. Лук'янюк**

## Балаган

Нямала радасці ў вёсцы, дзе адкрываецца клуб. Такой радасцю было адкрыццё Клуба селяніна ў Тарнопалі. Была культурна-асветная работа. Апошнім часам клуб перастаў працаваць. Пані клубовая пакінула работу. Жыхары Тарнопаля абураны такім беспарадкам. Інтэрвеніравалі колькі раз у ГС-е Нараўка. Як гарох да сцяны!

У Тарнопалі ёсць людзі, якія хацелі салідна працаваць, ёсць амбітная моладзь, якая працавала і хоча далей працаваць. Думаю, не варта крыўдзіць яе. Нельга крыўдзіць добрых гаспадароў Тарнопаля. Чаму такі арганізацыйны балаган з боку ГС-у ў Нараўцы?

**Крыніца**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ЧАГО ХАЦЕЛІ, ТОЕ ЎЖО МАЮЦЬ

У 27 нумары была змешчана заметка пад загалоўкам „Чаго хочуць жыхары Бабікаў?" У ёй жыхары Бабікаў прасілі дырэкцыю ПКС у Беластоку, каб аўтобус з Саколкі праз Бабікі ішоў аж у Шудзялава. Дагэтуль аўтобус ПКС, які едзе з Саколкі праз Бабікі ў Слойку, даязджаў толькі да Слойкі. У ліпені зліквідавана Бабіцкую гміну і таму ўсім неабходна ездзіць у Шудзялава. Дырэкцыя Прадпрыемства ПКС у Беластоку прыняла да сэрца просьбу жыхароў шматлікіх вёсак на Сакольшчыне і ўжо 22 ліпеня пусціла тры аўтобусы са Слойкі ў Шудзялава. (ця)

Zarząd Przedsiębiorstwa Państwowej Komunikacji Samochodowej w Białymstoku w odpowiedzi na pismo nr 27/1062 z dnia 4.07.76 r., dotyczące przedłużenia linii autobusowej Sokółka—Słójka—Szudziałowo informuje, że wniosek ten był uprzednio rozpatrywany i został załatwiony pozytywnie. Z dniem 22.07.76 r. przedłużono 3 pary kursów ze Słójki do Szudziałowa w niżej podanej relacji:

| | | |
|---|---|---|
| 1) Słójka—Szudziałowo | kurs 61 | — odj. godz. 6.35 |
| | kurs 05 | — odj. godz. 10.30 |
| | kurs 17 | — odj. godz. 15.05 |
| 2) Szudziałowo—Słójka | kurs 66 | — odj. godz. 6.50 |
| | kurs 10 | — odj. godz. 10.45 |
| | kurs 22 | — odj. godz. 15.20 |

Nadmienia się, że o sposobie załatwienia wniosku został poinformowany Naczelnik Gminy w Szudziałowie pismem nr PPKS-33/4101[76/76 z dnia 27 lipca 1976 r.

I-szy Zastępca dyrektora
mgr Stanisław Dembowski

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# Аднапалчане

Верасень. Цяпер дзядулю Паўла, суседа нашага, у нядзелю ні ў хаце, ні ў садзе не застанеш. А захочаш сустрэцца з ім, ідзі на станцыю. Бо яшчэ з раніцы апранае стары гімнасцёрку з трыма медалямі, назнімае адборных яблыкаў і спяшаецца на вакзал. Прадаць пасажырам. І, здаецца мне, не толькі дзеля выручкі. А хутчэй за ўсё, людзей паглядзець і свой тавар паказаць. Тавар жа ў дзядулі і сапраўды цудоўны! Варта прыйсці яму на перон — і ўсё наваколле напаўняецца духмяным, непаўторным пахам антонавак. А возьмеш яблык у рукі — наскрозь свеціцца, ля вуха патрасеш — як семечкі шамацяць, чуеш.

Сёння і я з ім на вакзал трапіў. Выйшаў на вуліцу, а ён паўнюткае вядро нясе. Цяжкавата старому. Вось я і прапанаваў да вакзала паднесці. Якраз у час паспелі: пасажырскі поезд на станцыю прыбыў. Дзядулю тут жа пасажыры акружылі. Але не паспеў ён гандаль пачаць, як на шыю яму кінуўся, мяркуючы па мове, украінец з ордэнам Чырвонай Зоркі на грудзях:

— Стэпане! Дружа мій! Ось де зустрітися довелося! Та Охрім я! З Чернігова... Мы ж з тобою від Волги до самої Эльбы дійшли...

Цяпер на шыю ўкраінцу дзядуля Павел кінуўся:

— Ахрымачка! Дружа родненькі! Ледзь пазнаў. Што ні кажы, а трыццаць адзін год з тае незабыўнае вясны прайшоў... Што гэта, поезд адпраўляецца?.. Бяры! З вядром бяры!.. Якія грошы!.. Якія грошы!..

Ахрым паспеў ускочыць і нават крыкнуць:

— Чернігов, вулиця Радянська, дом п'ятий!..

— Што, аднапалчаніна сустрэлі? — спытаў я. — Толькі чаму ён вас Сцяпанам назваў?

— Абазнаўся ён, — адказаў дзядуля Павел. — Абазнаўся...

— Чаго ж вы не сказалі яму?

— Не хацеў. Не хацеў, унучак, пазбаўляць яго радасці сустрэчы з аднапалчанінам. Гэта ж такая радасць! Такая радасць!

З пустымі рукамі вяртаўся з вакзала дзядуля Павел. А па выразу твару — з небывалай выручкай.

**Мікола Янчанка**









## ЛЯМПА

Кастусь і Парфен вырашылі крыху выпіць. Семдзесят злотых наскрэблі, а пятнаццаць не хапае.

Зайшлі яны да Сідара. У хаце якраз корпалася жонка. Каб яна нічога не зразумела, Кастусь сказаў:

— Сідар, у маім тэлевізары згарэла лямпа мы — 70, а ты — 15.

Здагадлівы Сідар і выручыў сябрукоў.

## ЗАЙЗДРОСНІКІ

Калі ў гуморы ты —
Глядзяць яны зайздросна
Ад поспехаў тваіх
Ім робіцца аж млосна.

Таму спакон вякоў
Для іх — незамянімкі:
Скляпаныя з хлусні
І бруду ананімкі.

О, не зайздрошчу я
Твайму, зайздроснік,
лёсу.
Рот у цябе і той
Заўжды зайздросціць...
носу.

О, як бы рот жадаў
Крыху вышэй узлезці,
Бо што ты ні кажы,
Нос — на вышэйшым
месцы!

**Павел Марціновіч**




## АЎТАРУЧКА-КВАЧ

Ружовае ў табе чарніла,
Ды ўсё навокал ачарніла.
Як ты ружова ні пішы,
А сутнасць — у тваёй душы!

**Н. Парукаў**



*— Купіў у горадзе штангу. Хачу заняцца цяжкай атлетыкай.*

## МІКОЛКА

Міколка прыходзіць у першы клас.

— Як цябе завуць? — пытае настаўнік.

Міколка маўчыць.

— Ну, як цябе заве мама, калі абед ужо на стале?

— Яна не заве мяне, у гэты час я заўсёды на месцы.



**— Гну спіны, — выхвалялася крывое люстэрка.**

## ХУТКІ

Пасажыр хуткага цягніка звярнуў увагу на тое, што цягнік надта часта спыняецца.

— Чаму мы зноў стаім? — пытае ён у кандуктара.

— На рэльсах карова разлажылася.

— Карова? Дык мы ўжо спыняемся сёння пяты раз. Тут што, многа кароў?

— Не, гэта тая ж сама. Мы зноў яе дагналі.

## ПРЫЧЫНА

— Як вы думаеце, чаму на шашы аварый куды больш, чым на чыгунцы?

— Па двух прычынах. Па-першае, ніводзін паравоз ніколі не спрабаваў абагнаць другі, а па-другое, ці бачылі вы калі-небудзь, каб машыніст цалаваўся на хаду з качагарам?

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У шлюбным агенцтве маладому чалавеку паказваюць некалькі фатаграфій выданніц. Убачыўшы, што ніводная з фатаграфій не выклікала асаблівага ўражання, дырэктар кажа:

— У мяне ёсць яшчэ адна дзяўчына з пасагам у паўтара мільёна франкаў.

— А дзе яе фатаграфія?

— У нашых кліентак з пасагам звыш пяцісот тысяч фатаграфій мы не просім.

✲

Адна дама з вышэйшых колаў расказвае аб сваіх уплывовых паклонніках:

— Калі б вы ведалі, колькі каралей я трымала ў гэтых руках!

— Вы гуляеце ў карты, мадам?

✲

Наведвальнік скардзіцца дырэктару рэстарана:

— Ваш афіцыянт нагрубіяніў мне!

— Слава Богу, а то ўсе скардзяцца на кухню...





## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Юзвюк з Барысаўкі і дзяўчат з Парцава змяшчаем песню*

# TYLKO BIAŁE TANGO

słowa: Andrzej Bianusz
muzyka: Ryszard Sielicki
śpiewa Halina Kunicka

Gdy nazbyt nas już zmęczy
Wspaniałość świata mężczyzn
W świat nieco niższy rangą
Poprowadzi nas czasami białe tango
To tango, w którym dama
Wybierać może sama
Na balu to wyjątek
Ale świat — to już nie jest bal
Świat, to już nie jest bal
I to już inny ma sens
Tylko białe tango mówi nam, że
Ja wybieram ciebie tak jak ty mnie
I nikt nam nie może wzbronić dziś
W białe tango iść
W białe tango iść
Urok tego tanga bierze się stąd
Że jest symetryczne dla obu stron
A więc się postaraj abyś i ty dziś
Był tym, z którym zechcę w białe tango iść
Choć przecież zagrożenia
W tym nie ma ani cienia
I o tym jest piosenka
Że świat nadal jest, panowie, w waszych rękach
Wy wiecie przecież, że my
My same tego chcemy
A tango — białe tango
Ach, to nic — cóż to znaczy, gdy
Jest tak, jak chcecie wy
A przecież zawsze tak jest
Tylko białe tango wciąż mówi, że
Po to cię wybieram, byś wybrał mnie
Że tańczycie w naszych życzeń takt
Tango mówi tak
Tango mówi tak
Lecz nie bierzmy tego serio, o nie
W końcu takie tango, cóż ono we
Tyle by je tańczyć, by je nucić dziś
By dziś, tak ja co dzień
W białe tango iść.

# Курёзы

## АБРАБАВАЛІ... КОНКУРС ПРЫГАЖОСЦІ

Чарговы конкурс прыгажосці ў Оклендзе закончыўся скандалам. Пераможца ў роспачы пакінула эстраду, так і не дачакаўшыся належнага ёй прыза. А арганізатары заявілі, што яны... абраблены. У мясцовым акруговым судзе сведка Бары Бэрнс паказаў, што арганізатар правядзення конкурсаў прыгажосці заручыўся вялікай фінансавай падтрымкай некаторых фірм, якія вырашылі, у сваю чаргу, пагрэць на конкурсах рукі. Як потым высветлілася, на атрыманыя сродкі жулік правярнуў рад махінацый, а напярэдадні спаборніцтва, выхапіўшы выручаную буйную суму грошай, знік.

## ЗНОЎ — „ЗАГНАНЫЯ КОНІ"

„Шукаем вынослівых і стойкіх для ўдзелу ў танцавальным марафоне, — аб'явіла крайстчэрцкая газета „Прэс". Перад пачаткам арганізатар „мерапрыемства" Крыс Уоткінс шматзначна заўважыў: „Спадзяюся, інцыдэнтаў не будзе". І сапраўды, з сямідзесяці пар, якія прынялі ўдзел у чацвер старт, да фінішу ў нядзелю наперакор усім чаканням „прыйшлі" дваццаць дзевяць.

А вось вынікі другога марафона — у Велінгтоне. Усяго праз суткі з шасцідзесяці пар на пляцоўцы тапталіся толькі тры. Астатнія, як потым пацвердзіў яго арганізатар Р. Джонс, вымушаны былі спыніць спаборніцтва з-за сур'ёзных траўм: расцяжэнняў, вывіхаў, моцных удараў і ран. Справа ў тым, што ўдзельнікам марафона быў прапанаваны новы ультрамодны танец „бамп", „харэаграфія" якога патрабуе, каб партнёры пад музыку сутыкаліся адзін з адным.



*Не звяртайце ўвагі на дробязі, ёсць рэчы драбнейшыя.*